www.nv-online.info

№ 26 (4278)

30 сакавіка 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Што чакае Дзмітрыя Фірсава?

***У маі мінулага года ў Магілёве здарыўся скандал: супрацоўнікі УБЭЗ Упраўлення ўнутраных спраў Магілёва прама на працоўным месцы затрымалі галоўнага інжынера вядомага на ўсю краіну прадпрыемства «Бабушкина крынка» Дзмітрыя Фірсава.***

***З тых часоў інфармацыі пра гэтую справу ў прэсу не паступала. Дзе зараз знаходзіцца Фірсаў?***

*(Заканчэнне на 2-й стар.)*

ПРАТЭСТ

## Страйк па-беларуску

6 лютага б.г. у “Народнай Волі” быў надрукаваны артыкул Мікалая Зяневіча “Гаротны лёс Мінскага падшыпнікавага завода вачыма рабочых”. Публікацыю заўважылі ў высокіх калідорах улады, і літаральна праз некалькі дзён на прадпрыемства завітала прадстаўнічая камісія на чале з памочнікам прэзідэнта па Мінску. Адбылася размова не з усім калектывам, а толькі з кіраўніцтвам прадпрыемства і актывістамі прафкама, які прадстаўляе на заводзе праўладную Федэрацыю прафсаюзаў.

Дакладна вядома, што падчас нарады гучала прамое пытанне: “Ці праўдзівы артыкул пра падшыпнікавы завод, які змясціла на сваіх старонках “Народная Воля”?” Ніводны факт не быў абвергнуты.

Рабочыя завода чакалі ад высокіх структур рэальных дзеянняў па вывядзенні прадпрыемства з глыбокага крызісу. І… дачакаліся.

Сітуацыя настолькі абвастрылася, што пазаўчора, 28 сакавіка, на заводзе фактычна пачалася забастоўка. Рабочыя цэха ролікавых падшыпнікаў, пераапрануўшыся ў гардэробе, з’явіліся ля станкоў, але працаваць не сталі. Ніхто не выступаў з прамовамі, амаль сто чалавек проста знаходзіліся на працоўных месцах, але станкі не ўключалі. Страйк па-беларуску!

Пратэст абумоўлены тым, што і без таго нізкая зарплата выдаецца з вялікай затрымкай. Так, да 23 сакавіка яе павінны былі выдаць, але толькі напярэдадні пратэстнай акцыі выплацілі ўсяго па 30 рублёў. Смехатура, ды яшчэ якая!

Калі кіраўніцтва завода ўбачыла, што рабочыя маюць сур’ёзны намер адстойваць свае правы, сказалі: на працягу дня падкінуць яшчэ па 110 рублёў.

“Народная Воля”, публікуючы артыкул “Гаротны лёс…”, звяртала ўвагу на тое, што рабочыя Мінскага падшыпнікавага завода спадзяюцца на тое, што ў сітуацыю, якая склалася на прадпрыемстве, умяшаюцца кіраўнікі Міністэрства прамысловасці і што ўдасца папраўіць справы. Як бачым, пакуль гэтага не адбылося: працаўнікі не могуць своечасова атрымаць нават мізэрную зарплату. Таму і пайшлі на крайні крок – страйк па-беларуску.

**Генадзь КАРПІЦКІ.**

ЧУЛІ?

## Зноў паехалі…

Чацвёрты раз за месяц канцэрн “Белнафтахім” павышае рознічныя цэны на аўтамабільнае паліва ў Беларусі. З сённяшняга дня яны павялічваюцца на 1 капейку, або ў сярэднім на 0,75%.

Кошт літра бензіну АІ-92-К5-Еўра складзе 1 рубель 25 капеек, АІ-95-К5-Еўра – 1 рубель 33 капейкі, АІ-98-К5-Еўра – 1 рубель 54 капейкі, ДП – 1 рубель 36 капеек.

НАПЯРЭДАДНІ

## Якім будзе Чарнобыльскі Шлях?

Заяўка на правядзенне 26 красавіка традыцыйнага Чарнобыльскага Шляху будзе пададзена ў Мінгарвыканкам 2 красавіка.

*“Мы вырашылі, што будзе шэсце, але канчатковы фармат акцыі яшчэ вызначым пасля кансультацый”*, – заявіў намеснік старшыні Беларускай партыі “Зялёныя” **Дзмітрый Кучук** па выніках пасяджэння аргкамітэта акцыі.

Плануецца, што заяўку падпішуць прадстаўнікі васьмі арганізацый, якія ўвайшлі ў аргкамітэт: Беларускай партыі “Зялёныя”, руху “За Свабоду”, Руху салідарнасці “Разам”, Аб’яднанай грамадзянскай партыі, Партыі БНФ, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада), аргкамітэта па стварэнні партыі “Беларуская хрысціянская дэмакратыя” і грамадскага аб’яднання “Экадом”.

НАДВОР’Е

## На каталіцкі Вялікдзень дажджы і да +16°С

Ужо ў суботу пад уплывам атмасфернага фронту з Карпатаў на большай частцы тэрыторыі Беларусі пройдуць дажджы і пацяплее. Удзень +3…+9°С, па паўднёвым захадзе да +10…+13°С.

У **нядзелю 1 красавіка** – на каталіцка-пратэстанцкі Вялікдзень і Вербную нядзелю ў праваслаўных – будзе таксама цёплае, але вільготнае надвор’е. Будуць ісці кароткачасовыя дажджы, днём у асобных раёнах моцныя. Удзень ад +6°С па поўначы да +16°С па Гомельшчыне.

БЛІЦ

## Аляксандр ЛУКАШЭНКА:

*– Я нядаўна гаварыў аб тым, што надыдзе час, калі мы павінны будзем і Канстытуцыю падкарэкціраваць. Можа, якія-небудзь нормы памяняць. Зразумела, нейкія функцыі ад прэзідэнта перадаць выканаўчым органам улады, ураду, парламенту і гэтак далей. Да гэтага мы і ідзём. Так, сёння гэты час не наступіў. Але ён заўтра можа наступіць. І мы павінны быць гатовы. Таму мы будзем працаваць над Асноўным законам, каб гэта не было нейкай вулічнай акцыяй, пасля якой улады пачынаюць варушыцца. Я гэта цудоўна разумею.*

**(З інтэрв’ю А.Р.Лукашэнкі грузінскаму тэлебачанню падчас нядаўняга візіту ў Тбілісі.)**

## Якія змены, на Ваш погляд, павінны быць унесены ў Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь?

**Радзім ГАРЭЦКІ, акадэмік:**

– Я параіў бы вярнуцца да варыянта той Канстытуцыі, якая была прынята Вярхоўным Саветам у 1990-я гады. Пасля яе перакруцілі на свой лад, і зараз той Асноўны закон – што дышаль. Быццам бы правы чалавека прапісаны ў Канстытуцыі, а на самай справе ніхто гэтых правілаў не прытрымліваецца.

**Генадзь МАЗЮК, намеснік старшыні СПК “Азёры” Гродзенскага раёна:**

– Я не ўпаўнаважаны каментаваць словы і ініцыятывы прэзідэнта.

**Ілля ДАБРАТВОР, прадпрымальнік:**

– Я выступаю за вяртанне старой Канстытуцыі і як можна большае абмежаванне прэзідэнцкай улады. Мне больш імпануе парламенцкая рэспубліка, і ўсе тыя змены, якія будуць адбывацца ў гэтым накірунку, толькі вітаю. Хаця не думаю, што ўлады пойдуць на гэта.

**Міхась БУЛАВАЦКІ, выкладчык матэматыкі (Магілёў):**

– Мяркую, што трэба абмежаваць знаходжанне прэзідэнта на пасадзе двума тэрмінамі. Хаця б гэтую норму няхай падкарэкціруюць.

**Ігар БАРЫСАЎ, старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамада):**

– Наша партыя выступае за тое, каб адбыліся змены ў тых артыкулах, што тычыцца мясцовага самакіравання. Было б таксама добра прапісаць у Асноўным законе развіццё партыйнай сістэмы. Каб усе палітычныя партыі валодалі правам заканатворчай ініцыятывы і фінансаваліся з дзяржаўнага бюджэту. І яшчэ ўхіл у Канстытуцыі павінен быць зроблены не на прэзідэнцкую рэспубліку, а на парламенцкую. Каб паўнамоцтвы кіраўніка краіны былі істотна абмежаваны.

**Алег ТАПАЛАЎ, дырэктар Маладзечанскага завода парашковай металургіі:**

– Гэта вельмі і вельмі няпростае пытанне. Тут сур’ёзна падумаць трэба, перш чым уносіць нейкія прапановы.

**Станіслаў БАГДАНКЕВІЧ, экс-старшыня Нацыянальнага банка Беларусі:**

– У Канстытуцыі трэба больш дакладна прапісаць раздзяленне галін улады, абмежаванне ўлады прэзідэнта, а таксама правы і свабоды людзей і аб’яднанняў. Але не думаю, што тут нешта зменіцца, бо мы кажам пра гэта ўжо больш за 20 гадоў. Дарэчы, можна было б нармальна жыць і пры дзеючай Канстытуцыі, але на практыцы законы ў нас нярэдка элементарна не працуюць. Тады які сэнс нешта змяняць і прыдумляць, калі яно не будзе працаваць?

**Леанід ЗЛОТНІКАЎ, эканаміст:**

– У Платона ёсць твор, які прысвечаны праблеме стварэння ідэальнай дзяржавы. І вось там ён задаваўся пытаннем: што трэба зрабіць, каб кіраўнік дзяржавы на самай справе ў першую чаргу думаў пра людзей? І старажытнагрэчаскі філосаф прыйшоў да высновы, што ў гэтага кіраўніка не павінна быць ні сям’і, ні дзяцей, ні свайго прыватнага жылля, ні нейкіх асабістых інтарэсаў у гэтай дзяржаве. І вышэйшыя чыноўнікі таксама не павінны думаць пра тое, як набіць кішэні. Таму давайце ўспомнім Платона. У Канстытуцыі трэба было б пашырыць правы простых людзей і абмежаваць паўнамоцтвы чыноўнікаў.

**Апытанне праводзіў Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

САСВЯТАМ!

## «Надзея ёсць…»

*(З Пастырскага паслання арцыбіскупа Тадэвуша Кандрусевіча на Вялікдзень 2018)*

...Пасха, якую мы святкуем ва ўспамін уваскрасення Хрыста, з’яўляецца святам не мінулага, але будучыні. Вялікдзень абвяшчае нам праўду аб тым, што будучыня мае сэнс, бо ёй валодае не хтосьці іншы, а ўваскрослы Хрыстус. Ён чакае нас не толькі ў небе, але і на зямлі, каб дапамагаць у гэтым жыцці.

Сучасны свет ніяк не можа выйсці з эканамічнага і фінансавага крызісаў. Яго скаланаюць палітычныя і сацыяльныя крызісы. З кожным днём нарастае міграцыйны крызіс. Многія краіны свету адмаўляюцца ад устаноўленага Богам інстытута сям’і як адзінага і непарыўнага саюзу мужчыны і жанчыны, з мэтай нараджэння патомства і яго выхавання, і прапагандуюць гомасексуальныя саюзы з усімі правамі нармальнай сям’і. Божы дар жыцця становіцца таварам, ім можна гандляваць і маніпуляваць, яго можна беспакарана забіваць ва ўлонні маці. Тэрарыстычныя акты трымаюць у страху цэлыя народы, бо невядома, калі і дзе можа здарыцца бяда. Поўнамаштабная, а можа, нават і ядзерная, вайна зазірае нам у вочы. Нявырашаная праблема сацыяльнай справядлівасці вядзе да паўстання новых канфліктаў. Свет адмаўляецца ад традыцыйных маральных каштоўнасцяў і папулярызуе амаральныя, у выніку чаго наступае глабалізацыя грахоўнасці. Шмат людзей, асабліва маладых, шукаюць шчасця ў віртуальным жыцці, забываючыся аб тым, што яно прамінае, як туман, нярэдка пакідаючы пасля сябе роспач.

Гэтыя і многія іншыя анамаліі сучаснага свету сведчаць аб тым, што ён знаходзіцца ў тупіку, з якога не ведае, як выйсці. Чым больш ён адмаўляецца ад духоўных каштоўнасцяў, тым бліжэй знаходзіцца да прорвы, у якую можа ўпасці. Таму лагічна, што ён усё часцей задае пытанне: «Ці ёсць яшчэ надзея?»

Надзея ёсць, і яна ва ўваскрослым Езусе, бо Пасхальная таямніца змяняе свет, і мы маем магчымасць быць удзельнікамі гэтай станоўчай змены.

Для гэтага найперш неабходна памятаць аб тым, што, будучы ўключанымі праз хрост у смерць і ўваскрасенне Хрыста, мы закліканы да таго, каб адкінуць старога чалавека, які канцэнтруецца выключна на самім сабе, стараецца падкрэсліць сваю пазіцыю ў грамадстве і імкнецца да ўлады, багацця і прыемнасцяў. Хрысціянін павінен быць тым, хто ўсведамляе, што ўсё, што ён мае, з’яўляецца Божым дарам і Ягонай ласкай, што яго жыццё кароткае, што ён слабы і грэшны. Аднак, нягледзячы на гэта, ён застаецца ўмілаваным дзіцём Божым. Усведамленне гэтага вызваляе з няволі эгаізму, з боязі не страціць сваёй сацыяльнай пазіцыі ў грамадстве і страху перад будучыняй.

Таму неабходна жыць ідэяй уваскрасення, бо мэта нашага зямнога жыцця – дасягнуць вечнага жыцця з Богам. Гэта азначае, што ўсе прывязанасці да часовай рэчаіснасці з’яўляюцца адноснымі, а не абсалютнымі. Наша задача – жыць згодна з Божым законам, што азначае быць новым, вызваленым з палону граху чалавекам.

Таксама неабходна пастаянна адкрываць у сабе прысутнасць уваскрослага Пана, які ёсць з намі ў Святым Пісанні, сакраментах і дзейнасці Касцёла, і быць Яго сведкамі ў штодзённым жыцці. Перажываючы з радасцю і моцнай верай Пасхальную таямніцу, мы становімся натхненнем для іншых на іх жыццёвым шляху, вяртаем ім надзею і яе ўмацоўваем.

Глыбокапаважаныя браты і сёстры!

Віншую ўсіх вас са святам Пасхі Хрыстовай!

Віншую тых хрысціян, якія разам з намі святкуюць гэтае свята святаў!

Віншую братоў і сясцёр праваслаўных, якія будуць адзначаць свята перамогі Хрыста над злым духам, грахом і смерцю праз тыдзень!

Віншую ўсіх суайчыннікаў!

Ласкі ўваскрослага Езуса, Яго святла і благаслаўлення, моцнай веры і любові Бога і бліжняга ўсім нам і нашай Бацькаўшчыне Беларусі, каб яна з дня на дзень уваскрасала да новага жыцця!

100 РАДКОЎ

Міхася СКОБЛЫ

## БНР на пяці гектарах

Дзіўнае адчуванне на пакідала мяне 25 сакавіка каля Опернага тэатра. І сонца па-вясноваму свяціла, і сцягі бел-чырвона-белыя вольна лунаглі, і песні беларускія са сцэны гучалі, і прыязныя ўсмешкі сонечнымі зайчыкамі людскія твары асвятлялі, і мова наша родная святочна кварцавала прастору… Але, нягледзячы на ўсё гэта, прысутнічала ў той прасторы лёгкая насцярожанасць. Яна не ўзнікла пасля даглядчыцкіх брамак на ўваходах – у нас жа не псуецца настрой пасля аналагічнай працэдуры ў аэрапорце ці на стадыёне. Яна з’яўлялася, калі я ўзнімаў вочы ў зіхоткае неба і над морам сцягоў, над стракозамі дронаў на даху тэатра бачыў таямнічыя постаці. Чорныя на белым, яны нагадвалі груганоў, што зверху выбіраюць сабе здабычу. “Оперы на Оперным”, – пажартаваў нехта на плошчы. Але весялосці той жарт не выклікаў.

Злавесныя чорныя постаці то ўзнікалі, то зноў з’яўляліся, і было зразумела, што 100-годдзе БНР для іх – проста чалавечы мурашнік. З мурашыным, зверху гледзячы – броўнаўскім – рухам, з мурашынымі лозунгамі і мурашынымі сцяжкамі.

Хто ж сузіраў святочны мітынг-канцэрт з даху тэатра? Відавочна, не які-небудзь оперны спявак з тэатральным касцюмерам вырашылі пакарыстацца службовым становішчам і з выгоднай пазіцыі паслухаць “Дзецюкоў” і Akute. Ды і міліцыянтам-аператыўнікам там не было чаго рабіць. Пэўна, з вышыні птушынага палёту за святам назіраў нехта ўплывовы, хто мог пры патрэбе аддаць неабходныя каманды сваім падначаленым унізе.

І, магчыма, менавіта ён іх аддаў. Штосьці высокага наглядчыка раздражніла ў бел-чырвона-белым мурашніку ўнізе, і, хутчэй за ўсё, ён скамандаваў хапаць людзей на выхадзе з плошчы. З дазволенага ўладай, гэта варта падкрэсліць, мерапрыемства. І распачаўся хапун на ўсіх прылеглых вуліцах. Спачатку бралі людзей са сцяжкамі ў руках, у бел-чырвона-белых шаліках, тых, у каго палотнішчы былі накінуты на плечы…

У журналісткі Галіны Абакунчык быў з сабой пашпарт – не дапамагло. Затрымалі з-за сцяжка ў руках, завезлі ў Савецкі РАУС і чатыры гадзіны займаліся “высвятленнем асобы”.

Васьмідзесяцігадовага Альберта Шарамета доблесныя амапаўцы даставілі ў той жа РАУС, дзе ён быў змушаны тры гадзіны стаяць на вуліцы тварам да сцяны, ледзь не да страты прытомнасці.

Студэнта Багуслава Цыганкова літаральна вырвалі з бацькоўскіх і матчыных рук (на свяце яны былі ўсёй сям’ёй) і звезлі ў невядомым кірунку (пазней высветлілася – у той жа Савецкі РАУС, усе дарогі ў той дзень вялі туды).

Трапіў у пастарунак у той дзень і мілы ды інтэлігентны чалавек – дзевяностагадовы (!) Аляксандр Карызна (як выглядае, круціць рукі безабаронным дзядулям – улюбёны занятак амапаўцаў)…

Людзі ў прыўзнятым святочным настроі мірна выходзілі за турнікеты і – раптоўна рабіліся парушальнікамі. Парушальнікамі чаго? Ніхто на вуліцах Купалы і Багдановіча не пераварочваў міліцэйскія аўтамабілі. Дзверы ў Оперным тэатры засталіся цэлыя. Ніхто, выбачаюся, не схадзіў па малой патрэбе ў замерзлы фантан.

Дык каму і навошта спатрэбіўся той хапун? Пасля, паўтаруся, санкцыянаванага ўладай мерапрыемства. Пасля аўтарытэтных высноў ва ўрадавай “Звяздзе”, што БНР – гэта добра. Пасля адкрыцця ў Мінску выраблeнага на грошы гарвыканкама памятнага знака “бацькам” БНР Антону і Івану Луцкевічам. Пасля публічных заяў высокіх чыноўнікаў, што калі народ захоча, то і дзяржава далучыцца да святкавання.

Народ захацеў – паводле прыблізных падлікаў за дзень каля Опернага тэатра пабывала каля 50.000 чалавек. І дзяржава “далучылася” – хапуном, беспадстаўна затрымаўшы дзясяткі чалавек. Як выглядала, сілавікі гэтым разам дзейнічалі без усякай схемы, хапалі, абы схапіць, нацыянальная сімволіка (дазволеная ў той дзень!) служыла хіба дапаможным апазнавальным знакам. Гэта як на выхадзе з касцёла (на 25 сакавіка прыпала Вербніца ў католікаў) пачалі б хапаць людзей з асвечанымі вярбовымі галінкамі.

Гэтаму недарэчнаму хапуну ў мяне ёсць толькі адно тлумачэнне. Наглядчыку звысоку (не абавязкова з даху Опернага тэатра) не спадабалася вялікая колькасць удзельнікаў свята, якім было відавочна цеснавата на тых выдзеленых пяці-шасці гектарах зямлі. Наглядчык спалохаўся, што разам са сцягамі на плячах у маладзёнаў ідэі БНР трапяць у заспаныя Шабаны, прыкурапацкі Зялёны Луг, ці іх “Малінаўка” заслышит голосок”. Вось гэтага наглядчык дапусціць не мог.

Бо БНР на пяці гектарах – гэта яшчэ цярпіма, а распаўсюджванне яе незалежніцкіх ідэй па ўсёй сталіцы – не. І – закруцілася рэпрэсіўная машына, якая ў нас заўсёды стаіць змазаная і гатовая да ўжытку.

Хоць, як на цвярозы розум, неба на зямлю не ўпала б, калі б юнакі са сцягамі на плячах праехаліся ў метро ці тралейбусе. Ну не за пазуху ж тыя сцягі было хаваць!

Юбілей БНР у Мінску нагадаў мне апісаны Ларысай Геніюш Вялікдзень у ГУЛАГу. Як вязні патаемна рыхтаваліся, пяклі на печцы-буржуйцы велікодны пірог з кукурузнай мукі, спявалі шэптам пры завешанай свечцы песні пра ўваскрослага Хрыста. І як было ўсё ўрачыста і велічна. А за акном барака – вечная мерзлата і цемра непрасвяцімая. І вязням прыйшло як адкрыццё, што воля – не за калючай агароджай, а ўнутры яе…

25 сакавіка плошча ля Опернага не была рэзервацыяй, як шмат хто напісаў у сацыяльных сетках. На той плошчы была тэрыторыя свабоды, тэрыторыя БНР, там адбыўся наш Вялікі Дзень – хай сабе пакуль што на пяці гектарах. А вось калі і наколькі пабольшае і пашырыцца тая тэрыторыя – будзе залежаць ад усіх нас.

Што да ўлады, то момант ісціны для яе настане літаральна праз некалькі дзён, калі на будынку, дзе была прагалошана Трэцяя Устаўная грамата БНР, з’явіцца (або не з’явіцца) выраблeная на сабраныя народам грошы мемарыяльная дошка.

В НОМЕР!

## Дочь Скрипаля пошла на поправку

***Состояние дочери Сергея Скрипаля Юлии улучшается и больше не оценивается как критическое.***

Об этом сообщает *BBC* со ссылкой на доктора Кристин Бланшард из больницы Солсбери.

Народная Воля http://www.nv-online.info
30 САКАВІКА 2018 г.

З ПЕРШЫХ ВУСНАЎ



# Алег ТРУСАЎ: «Плата за вучобу ў нас будзе меншая, чым у БДУ»

*Выконваючы абавязкі рэктара Нацыянальнага ўніверсітэта імя Ніла Гілевіча, які днямі зарэгістраваны ў Беларусі, распавёў "Народнай Волі" пра новую навучальную ўстанову.*

Заснавальнік прыватнага беларускамоўнага ўніверсітэта – ГА "Таварыства беларускай мовы". Плануецца, што напачатку з'явяцца тры факультэты – гуманітарны, сацыялогіі і мастацтваў і факультэт філалогіі, замежных моў і перакладаў. Універсітэт будзе рыхтаваць культуролагаў, гісторыкаў, перакладчыкаў, дыпламатаў, журналістаў. Пазней могуць з'явіцца і тэхнічныя спецыяльнасці…

– Таварыства беларускай мовы займаецца стварэннем такога ўніверсітэта яшчэ з 1998 года, – кажа **Алег ТРУСАЎ**. – У свой час у падтрымку гэтага праекта сабралі 55 тысяч подпісаў. І толькі зараз мы зразумелі: калі дзяржава не хоча сама займацца фінансаваннем такога праекта, трэба разлічваць толькі на свае сілы.

**– Чаму доўгі час вы не маглі зарэгістраваць назву ВНУ?**

– Таму што на розных падставах нам адмаўлялі. 17 разоў не рэгістравалі назву! Але, дзякуй Богу, наша мэтанакіраванасць дала плён. А зараз неабходна атрымаць ліцэнзію, гэта зойме не адзін месяц.

**– Універсітэту далі імя Ніла Гілевіча. Хто прапанаваў менавіта гэтую назву?**

– Гэта ідэя кіраўніка ТБМ Алены Анісім. Яна звязалася з сынам Ніла Сымонавіча, папрасіла дазвол у блізкіх на выкарыстанне імя. Без гэтага, дарэчы, нас не зарэгістравалі б.

**– Універсітэт плануецца адкрыць праз год. Паспееце за гэты час вырашыць усе арганізацыйныя пытанні?**

– Будзем старацца, але ўжо з 1 верасня мяркуем адкрыць падрыхтоўчыя курсы для будучых студэнтаў. Для гэтага ліцэнзія не патрэбна. А пасля таго, як пройдзем ліцэнзаванне, думаю, вырашэнне астатніх пытанняў будзе рухацца хутчэй.

Дарэчы, даведаўся, што ўлады хочуць забараніць усім прыватным універсітэтам набіраць у год больш за 50 студэнтаў. Многія прыватнікі, натуральна, застагналі ад такой прапановы, бо яны губляюць грошы, але для нас гэта цалкам прымальна. З 50 студэнтаў можна сфарміраваць 4 групы, і гэта нармальна. Мы ставім не на колькасць, а на якасць. Будзем выбіраць самых таленавітых і даваць ім вельмі якасную адукацыю. І ў першую чаргу разглядаем універсітэт як навуковы цэнтр, а не месца падрыхтоўкі спецыялістаў, якім пасля заканчэння ВНУ будзе праблематычна працаўладкавацца.

**– Колькі будзе каштаваць вучоба для студэнтаў?**

– Мы адштурхоўваемся ад сярэдніх расцэнак навучання ў тым жа Белдзяржуніверсітэце. Але ў нас усё роўна плата будзе крыху меншая, чым у БДУ, каб заахвоціць людзей.

**– Раней вы казалі, што для нармальнага функцыянавання ВНУ на год неабходна 7–8 мільёнаў долараў. Лічбы не змяніліся?**

– Не змяніліся, бо за аснову бралі мадэль фінансавання Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта ў Вільнюсе. Нам не патрэбны вялікія групы па 30 студэнтаў, у нашых будзе па 10–12 чалавек.

Адным словам, мы не станем зарабляць на колькасці студэнтаў. Грошы трэба атрымліваць ад грантаў, бізнесу. Будзем шукаць фірмы, якія дапамогуць фінансава, а атрымаюць высакаякаснага спецыяліста, скажам, з веданнем латышскай мовы. Мы з кампаніяй заключаем кантракт, і яна аплачвае падрыхтоўку пяці студэнтаў, якіх потым возьме на працу. Так робіцца ва ўсім свеце.

Падчас святочнага канцэрта 25 Сакавіка да мяне каля 30 чалавек падыходзілі і пыталіся, калі ўжо ўніверсітэт распачне працу. І грошы ў людзей ёсць. Шмат выкладчыкаў з добрым веданнем мовы ўжо папрасіліся на працу, будзем прымаць іх на конкурснай аснове, бо жадаючых вельмі шмат.

**– Рэктарам універсітэта будзеце вы?**

– Пакуль ГА "Таварыства беларускай мовы" толькі прапанавала маю кандыдатуру на гэтую пасаду, але ўзгадняць яе будзе міністр адукацыі. Калі не зацвердзяць маю кандыдатуру, то пашлём яшчэ адну. Гэта не праблема. Галоўнае для нас – каб беларускамоўны ўніверсітэт існаваў і эфектыўна працаваў…

**Алесь СІВЫ.**

ТАКОЕ ЖЫЦЦЁ

# Толькі ў двух з 118 раёнаў Беларусі зарабляюць 500 долараў

*Амаль у кожным трэцім раёне сярэднія зарплаты не перавышаюць і 300 долараў.*

Нядаўна Нацыянальны статыстычны камітэт апублікаваў дадзеныя аб лютаўскіх заробках беларусаў. І карціна атрымалася, мякка кажучы, нярадасная.

Сярэдняя намінальнаяналічаная зарплата па краіне склала 850,4 рубля, або 438 долараў па курсе Нацбанка. Толькі чатыры раёны з усёй Беларусі змаглі перасягнуць гэтую мяжу па сярэдняй зарплаце – Салігорскі, дзе ў лютым зарабілі 1190,9 рубля, Мінскі (1024,9), Рэчыцкі (894,5) і Дзяржынскі (886,5), а таксама гарады Мінск (1190,4) і Брэст (855). Што тычыцца яшчэ чатырох абласных цэнтраў, то там пахваліцца асабліва няма чым. У Віцебску ў лютым заробак «бруднымі» склаў 789,9 рубля, у Гомелі – 824, у Гродне – 843, у Магілёве – 806 рублёў. Што тычыцца статыстыкі па абласцях, то яна наступная:

Брэсцкая вобласць – сярэдні лютаўскі заробак склаў 731,6 рубля;
Віцебская – 726,6;
Гомельская – 772,3;
Гродзенская – 721,5;
Мінская – 841,9;
Магілёўская – 719,7 рубля.

Літаральна ў кожным другім раёне Беларусі (у 60 раёнах) жыхары зарабілі ў сярэднім ад 600 да 700 рублёў. А ў 34 раёнах сярэднія заробкі за люты не перавысілі 600 рублёў!

**ТОП-10 самых нізкааплатных раёнаў краіны выглядае так:**

| Раён | Вобласць | Намінальная налічаная сярэдняя заработная плата работнікаў за люты, у рублях |
|---|---|---|
| Шаркоўшчынскі | Віцебская | 490 |
| Мёрскі | Віцебская | 536,3 |
| Лёзненскі | Віцебская | 537,4 |
| Мсціслаўскі | Магілёўская | 543 |
| Ушацкі | Віцебская | 544,7 |
| Бешанковіцкі | Віцебская | 550 |
| Сенненскі | Віцебская | 551 |
| Браслаўскі | Віцебская | 552,1 |
| Кіраўскі | Магілёўская | 557,4 |
| Карэліцкі | Гродзенская | 557,5 |

У ТЭМУ

## У палякаў не 1000 рублёў, а 1000 еўра

Пакуль беларускія ўлады абяцаюць, у суседніх краінах сярэднія заробкі ўжо даўно намнога большыя, чым у нас.

Так, згодна з афіцыйнымі дадзенымі, у Польшчы сярэдняя зарплата складае 1050 еўра, у Літве – 885, у Латвіі – 961, у Эстоніі – 1271 еўра. У Расіі зараз зарабляюць у сярэднім 562 еўра, прычым там напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў заробкі выраслі: рост у лютым склаў 9,7%. І толькі ва Украіне сярэдняя зарплата меншая, чым у Беларусі, – каля 242 еўра.

ЦЫТАТА

## «Да канца першага квартала – аднавіць тысячу рублёў»

2 сакавіка Аляксандр Лукашэнка падчас справаздачы ўрада, Нацбанка, аблвыканкамаў і Мінгарвыканкама аб выніках работы эканомікі краіны за 2017 год і задачах па забеспячэнні ўстойлівага эканамічнага росту, зноў патрабаваў зарплаты для беларусаў у 1000 рублёў:

*«Я ўжо папярэдзіў. Разумею, што ў снежні выйшлі прыкладна на тысячу рублёў. У студзені заробак упаў, зразумела, прагулялі паўмесяца практычна, адпачывалі, Новы год святкавалі. Люты – кароткі месяц. Але да канца першага квартала ваша задача – аднавіць тысячу рублёў, а на працягу года – перасягнуць гэты паказчык».*

Паглядзім, што атрымаецца на гэты раз…

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ТЕМА ДНЯ

# Готова ли Беларусь к новым киберугрозам?

*С 28 марта декрет «О развитии цифровой экономики» открыл двери для широкого применения в Беларуси технологии блокчейн и привлечения инвестиций при помощи ICO. Но готова ли Беларусь встретить новые киберугрозы, которые принесут с собой новые финансовые инструменты?*

Проведенный компаний Positive Technologies анализ показал, что с момента выхода любого проекта в интернет проходит в среднем 10 минут, как его уже начинают прощупывать на уязвимость определенные лица. Это говорит о том, что киберпреступники поставили на поток анализ всего, что появляется в интернете, на предмет поиска и использования в своих целях уязвимостей. При этом около 70% злоумышленников нацелены на получение финансовой выгоды через хищение средств. И если раньше это в основном производилось через банки и другие финансовые институты, то теперь вперед вырываются технологии блокчейн, ICO и криптовалюты.

Как заявил директор по безопасности приложений компании Positive Technologies **Денис Баранов**, на сегодняшний день киберпреступники похитили около 10% всех средств инвесторов, привлеченных в ICO. И хотя методы защиты усиливаются, хакеры также совершенствуются.

В 2017 году объем инвестиций, привлеченных с помощью Initial Coin Offering (ICO), превысил 5 млрд долларов. При этом около 300 млн долларов было похищено злоумышленниками. Это довольно большая сумма, которая сегодня отражает реальные риски для потенциальных инвесторов.

*«Злоумышленники могут воспользоваться опытом успешных атак на ICO и криптовалютные биржи и начать атаковать промышленные внедрения блокчейн-систем. Возможны хакерские атаки с целью игры на понижение на рынке фьючерсов на биткоин»*, – отметил Денис Баранов. По словам эксперта, промышленным предприятиям в такой ситуации необходимо пересмотреть привычную модель угроз при внедрении технологий блокчейн на промышленном уровне, а регуляторам отрасли – ввести требования по ИБ к блокчейн-системам.

Эксперты отмечают несколько причин, по которым при ICO теряются деньги. В первую очередь это ошибки при написании смарт-контрактов, которые допускаются из-за недостаточного знания программистами принципов безопасной разработки. Также много ошибок допускается при настройке инфраструктуры и развертывании блокчейн-платформ. Многие компании банально не продумывают модель угроз и не учитывают актуальные угрозы и реальные методы атак киберпреступников. Кроме того, уже в ходе ICO многие проекты не проводят мониторинга подозрительных транзакций, в результате чего денежки утекают на сторону.

За 2017 год эксперты Positive Technologies провели оценку 20 проектов по защищенности блокчейн-систем. Как выяснилось, 71% проектов содержал уязвимости в смарт-контрактах, 50% проектов – уязвимости в веб-приложениях, включая точки входа через блокчейн, среди мобильных приложений 100% содержали уязвимости.

Беларусь пока только вступает на путь внедрения технологии блокчейн и привлечения инвестиций путем ICO. Желание вступить на скользкую, но весьма привлекательную дорожку имеют очень многие, даже те, кто в принципе слабо понимает, как работает вся система. Эксперты советуют в такой ситуации лучше не рисковать и обратиться к специалистам, которые имеют успешный практический опыт использования технологии блокчейн.

**Сергей САЦУК.**

*Ej.by.*

ВІНШУЕМ!

# Павел СЕВЯРЫНЕЦ: «Сын падобны на Уінстана Чэрчыля»



Як паведамлялася, у сям'і вядомага палітычнага актывіста нарадзіўся сын Францішак. Сёння Вольгу Севярынец з малым выпісваюць з радзільнага дома.

Хлопчык нарадзіўся 23 сакавіка каля 6 гадзін раніцы, Павел прысутнічаў на родах.

*"Я проста ў захапленні ад сваёй жоначкі, таму што яна – баец!* – казаў шчаслівы бацька. – *Трымалася вельмі цярпліва, нараджала моўчкі, без аніводнага крыку. Першы наш хлопчык нараджаўся праз кесарава сячэнне, але зараз Волечка нараджала сама. Сабралася вельмі шмат дактароў, бо не ўсё было так проста. Мы адразу Францішку праспявалі першую песню – хрысціянскі гімн "Зорка Віфлеемская"*.

Амаль тыдзень Вольга з Францішкам знаходзіліся ў бальніцы.

*"Хлопчык добра есць, вагу набірае,* – працягвае **Павел Севярынец**. – *Урачы даюць малечы пэўныя лекі, каб засцерагчы ад нейкіх базавых хвароб, таму ў бальніцы крыху затрымаліся. Зрабілі Францішку невялічкую аперацыю, але зараз усё нармальна".*

Першыя чатыры дні Вольга знаходзілася ў платнай палаце, але потым перайшла ў агульную.

*"Трэба было плаціць 50 рублёў за суткі знаходжання,* – распавядае Павел. – *Умовы былі цудоўныя, нават мне можна было заходзіць у палату. Зараз гэта забаронена, таму Волечка сама выходзіць да мяне, калі яе наведваю".*

Са слоў майго суразмоўцы, хрысціць хлопчыка будуць пазней, а зараз вызначаюцца з хроснымі бацькамі:

*"Адно вядома – хрысціць Францішка будзем там, дзе і самі вянчаліся, – у мінскім архікафедральным касцёле імя Найсвяцейшай Панны Марыі, дзе, дарэчы, 100 гадоў таму была заснавана Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя. Дарэчы, хацеў бы адзначыць энергічнасць сына. Самы сапраўдны актывіст расце, але нічога не зробіш – генетыка. А ведаеце, на каго падобны Францішак? На… Уінстана Чэрчыля. У яго быў выраз твару немаўляці, таму падабенства ёсць. І, натуральна, рысы Волечкі таксама бачны…"*

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

# Што чакае Дзмітрыя Фірсава?

*(Заканчэнне.*
*Пачатак на 1-й стар.)*

Тады разам з галоўным інжынерам ААТ «Бабушкина крынка» быў затрыманы і кіраўнік прыватнага прадпрыемства «Грын Кастл». Паводле версіі следчых, яшчэ ў 2014 годзе Дзмітрый Фірсаў, дамовіўшыся з прадпрымальнікам, арганізаваў закупку абсталявання для прадпрыемства па завышаным кошце.

"*Падазроныя ў карысных інтарэсах дакументальна аформілі пастаўкі абсталявання праз шэраг пасрэдніцкіх камерцыйных структур, у выніку чаго рынкавы кошт сепаратара-малакаачышчальніка для цэха дзіцячага харчавання прадпрыемства быў завышаны амаль на 30 тыс. рублёў*", – паведаміў начальнік УБЭЗ УУС падпалкоўнік міліцыі **Дзмітрый Шчадракоў**. Таксама паведамлялася, што гэты факт махлярства – не адзінкавы, праваахоўнікі мяркуюць, што агульная сума шкоды прадпрыемству з-за дзеянняў Фірсава можа скласці больш за 700 тыс. рублёў, а гэта, між іншым, больш за 350 тысяч долараў!

Дзмітрый Фірсаў і яго хаўруснік адразу ж былі арыштаваны. Крымінальную справу распачалі па ч.3 арт.426 КК Беларусі – перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў, якая прадугледжвае пазбаўленне волі на тэрмін да дзесяці гадоў пазбаўлення волі з канфіскацыяй маёмасці і з пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады.

"*Яшчэ ідзе следства па гэтай справе, у суд яе пакуль не перадалі*", – паведамілі «Народнай Волі» ва ўпраўленні Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь па Магілёўскай вобласці.

На «Бабушкиной крынке» расказваюць, што на допыты па справе былога галоўнага інжынера выклікалі многіх супрацоўнікаў.

– *Падрабязнасці таго, як ідзе следства, нам невядомыя,* – кажуць на прадпрыемстве. – *Ніякіх грошай Дзмітрый Мікалаевіч прадпрыемству не вяртаў. Ды і як ён мог вярнуць, калі яшчэ не названа канчатковая сума шкоды. Можа, на судзе ўсё даведаемся. Хаця, калі будзе той суд, ніхто не кажа. А хутка ўжо год, як Фірсаў за кратамі. Яго затрымалі летась 22 мая. Знаходзіцца ён у магілёўскай турме СТ-4. Па-чалавечы шкада яго, канешне. Сям'я, безумоўна, перажывае, у яго двое непаўналетніх дзяцей… А ў холдынгу Дзмітрый Мікалаевіч працаваў больш за 10 гадоў, яго прывёў на прадпрыемства Ігар Кананчук. Фірсаву тады было крыху больш за 30 гадоў…*

Трэба адзначыць, што Дзмітрый Фірсаў лічыць сябе патрыётам Беларусі. Некалькі гадоў таму, калі Беларусь па запрашэнні нашай амбасады ў Кіеве наведвалі ўкраінскія журналісты, Дзмітрый Фірсаў у размове з намеснікам рэдактара газеты "Кіеўскі камуніст" адзначыў: "*Мы – патрыёты сваёй краіны, бо нічога, акрамя дабра, ад дзяржавы мы не бачым. Нам, жыхарам Беларусі, усё адно, як называецца наш строй, мы ведаем толькі, што ўсё робіцца для працоўнага чалавека. Сваім прыкладам мы паказваем, што можна сумленна працаваць на карысць краіны, і краіна будзе плаціць падзякай такім людзям*".

У ТЭМУ

## Дырэктары-дэпутаты

У мінулым годзе ААТ «Бабушкина крынка» ўзначаліў **Дзмітрый Главінскі**. На магілёўскае прадпрыемства, вядомае сваёй малочнай прадукцыяй нават за межамі Беларусі, ён быў пераведзены з Мінска. У сталіцы Главінскі працаваў на «Белрыбе», займаў пасаду першага намесніка генеральнага дырэктара гэтага ААТ.

Не папрацаваўшы ў Магілёве і года, Главінскі вырашыў паўдзельнічаць у мясцовых выбарах, якія прайшлі ў Беларусі сёлета 18 лютага. Давераныя асобы Главінскага сабралі неабходную колькасць галасоў для рэгістрацыі яго кандыдатам у дэпутаты Магілёўскага абласнога Савета, вылучыў кіраўніка ў кандыдаты і працоўны калектыў «Бабушкиной крынки».

У дэкларацыі аб даходах, якую Дзмітрый Главінскі падаў у мясцовы выбаркам, ён указаў, што мае ва ўласнасці кватэру, а ягоны гадавы даход за 2016 год склаў 10.779 рублёў. То бок у месяц не атрымлівалася і праславутых 1000 рублёў. Месцам пражывання Главінскі пазначыў Мінск.

Дэпутатам Магілёўскага абласнога Савета дырэктар «Бабушкиной крынки» Дзмітрый Главінскі стаў. Як вядома, ягоны папярэднік **Ігар Кананчук**, які ўзначальваў прадпрыемства больш за 12 гадоў, зараз таксама дэпутат. У 2016 годзе Кананчук быў абраны дэпутатам Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Пераязджаць у Мінск у службовае жыллё Кананчуку не спатрэбілася – у сталіцы ён мае трохпакаёвую кватэру, якую набыў яшчэ ў 2007 годзе.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

